*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№ 213 (795)**
Серада, 17 лістапада 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 25000 руб., па падпісцы — 18000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




**Ліст галоўнага рэдактара**

# Дыскрымінацыя



Тэлефонныя званкі хлынулі ў рэдакцыю з першага дня падпіснай кампаніі. І ва ўсіх, хто вырашыў выйсці на сувязь з галоўным рэдактарам, адно пытанне: чаму так рэзка падаражала "Народная воля"?

Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, з-пад майго пяра, здаецца, сочыцца не чарніла, а кроў. Да болю ў сэрцы крыўдна за сваю бездапаможнасць, за вераломнае нахабства сённяшніх улад, за горкі лёс людзей, якія не могуць нашкрэбсці патрэбную суму грошай, каб падпісацца на нашу газету.

Ці ж я, шаноўныя сябры, вінаваты, што падпісны кошт "Народнай волі" на месяц узляцеў да 750 тысяч рублёў (для пенсіянераў, інвалідаў і ранейшых падпісчыкаў — да 600.000)? На такі непажаданы крок нас змусілі пайсці ўлады, а дакладней — тыя, хто пакуль што пры ўладзе. Для іх свабодная прэса — што костка ў горле, і яны ведаюць, як стрымаць рост тыражоў незалежных газет: зрабіць так, каб з-за высокага кошту яны былі недаступнымі для большасці збяднелых людзей.

Усё гэта невыпадкова. Неяк мне расказалі такі эпізод. Як толькі А.Лукашэнка ўсеўся ў прэзідэнцкае крэсла, адразу ж паклікаў бліжэйшае атачэнне.

— Дык вось, даражэнькія, забудзьце тое, што я гаварыў адносна свабоды прэсы раней, падчас выбараў, — з націскам сказаў ён. — Мы будзем пры ўладзе столькі, колькі ў нашых руках будуць сродкі масавай інфармацыі.

Я не ручаюся за дакладнасць перададзеных слоў, але ўпэўнены: Лукашэнка — гэта вам не Шушкевіч, не Кебіч і тым болей не Дзямянцей. А.Р. скеміў адразу: не накінуўшы аброць на прэсу, радыё і тэлебачанне, немагчыма будзе ўтрымаць у бяспамяцтве, пакорлівасці 10 мільёнаў беларусаў. І ўспомніце, як паляцелі галовы галоўных рэдактараў тых газет, якія паспрабавалі падняцца з каленяў і сказаць сваё слова. Не адзін тыдзень мне выкручвалі рукі, а калі не здаўся — плюнулі на Вярхоўны Савет, які быў заснавальнікам "Народнай газеты", а значыць, толькі ён меў права вырашаць лёс галоўнага рэдактара: з'явіўся антызаконны ўказ, і шлях у службовы кабінет для мяне быў перакрыты.

Сёння ідэалагічныя дэмагогі сцвярджаюць: у Беларусі прэса свабодная, вунь колькі незалежных газет... Толькі круглы дурань можа пагадзіцца з такім цынізмам лукашэнкаўскіх цэрбераў. На ўсю краіну — толькі адна штодзённая недзяржаўная газета. І пры гэтым лямантаваць пра нейкую свабоду прэсы?!

За чатыры гады існавання "Народнай волі" — дзве вымушаныя эміграцыі ў Літву, забарона на распаўсюджванне праз дзяржаўную сістэму, забарона на тыражаванне ў спецыялізаванай друкарні прэзідэнцкага выдавецтва "Беларускі Дом друку", іншыя шматлікія экзекуцыі. Адным словам, пакуль не памерлі, але і жыць нармальна немагчыма.

Ёсць розныя формы дыскрымінацыі сродкаў масавай інфармацыі, цэнзуры свабоднага слова, пазбаўлення людзей аб'ектыўнай інфармацыі. Сённяшнія беларускія ўлады, на мой погляд, выбралі самую вытанчаную і адначасова — самую дзікунскую. Гэта яскрава пацвярджае і чарговая падпісная кампанія.

Я думаў: нарэшце ўсе газеты — і дзяржаўныя, і недзяржаўныя — будуць пастаўлены ў роўныя ўмовы. Дзе там! Наадварот, для незалежных газет яны яшчэ болей пагоршыліся. Са студзеня наступнага года за экспедзіраванне і дастаўку аднаго месячнага камплекта "Народнай волі" дзяржаўнае прадпрыемства "Белпошта" будзе ўтрымліваць з нашай рэдакцыі амаль 400 тысяч рублёў (з разліку на кожнага падпісчыка). А гэтыя ж паслугі для "Советской Белоруссии", "Рэспублікі", "Народнай газеты", "Белорусской нивы" і іншых прапрэзідэнцкіх газет — амаль у пяць разоў таннейшыя. А дадайце сюды яшчэ шэсць працэнтаў ад падпіснога кошту, якія ўскладваюцца на рэдакцыю "Народнай волі" за афармленне самой падпіскі. Якую лічбу для падпісчыкаў трэба назваць, каб сабраць сродкі для бесперапыннага выдання незалежнай газеты! Тыя ж 600 тысяч рублёў, альбо нават 750 — гэта, безумоўна, недастатковыя сумы. Тона паперы каштуе ўжо амаль чатырыста мільёнаў рублёў, кожны дзень растуць паліграфічныя, транспартныя паслугі... Вось і думай, рэдактар, як выжыць у такіх іезуіцкіх умовах.

Дыскрымінацыйныя захады ўлад пры зацвярджэнні дыскрымінацыйных тарыфаў на паслугі "Белпошты" вядома ж былі скіраваны на адно: удушэнне свабоднай прэсы, пазбаўленне шырокай грамадскасці аб'ектыўнай інфармацыі. Сапраўды, як той жа вясковай бабульцы нашкрэбсці мільён-другі рублёў на падпіску незалежнай газеты "Народная воля", калі яе месячная пенсія — усяго шэсць-сем мільёнаў. Ды што гаварыць пра вясковую бабулю! Мая знаёмая настаўніца, якая жыве ў сталіцы, не можа купіць сукенку, перабіваецца, можна сказаць, з вады на хлеб, паколькі зарабляе ў месяц усяго 20—25 долараў. Якое злачынства: улады робяць усё для таго, каб пазбавіць праўдзівага слова эліту нацыі! Не цяжка спрагназаваць, да чаго давядзе такое абыдлячванне людзей.

Калі вядомы юрыст, актыўны аўтар "Народнай волі" Міхаіл Пастухоў звярнуў увагу на гэтае дзікунства ўлад аднаго з лукашэнкаўскіх рэдактараў, то пачуў: "Улады прадстаўляюць ільготныя тарыфы для афіцыйных газет, паколькі яны абараняюць дзяржаўныя інтарэсы". Калі б я не ведаў гэтага журналіста-рэдактара, то сказаў бы: "Ёлупень, расплюшчы вочы... Ты, калега, проста хітры ліс! Думаеш адно, а гаворыш другое. Разумееш, добра разумееш, што дзяржаўныя інтарэсы, гэта значыць — агульнанародныя павінны абараняць усе газеты, афіцыйныя і неафіцыйныя. Заўважу — дзяржаўныя інтарэсы, а не кланавыя, не інтарэсы пэўных асоб, нават калі яны знаходзяцца на самым версе іерархічнай лесвіцы. Скажы, даражэнькі, ці можна сёння паставіць знак роўнасці паміж інтарэсамі тых, хто цяпер пры ўладзе, і дзяржаўнымі, агульнанароднымі? За пяць з гакам гадоў кіраўніцтва А.Лукашэнкі сярэднемесячны заробак упаў амаль са 100 долараў да 35—40. У школах многія дзеці губляюць прытомнасць ад таго, што прыходзяць галоднымі. А хто не бачыў людзей, якія корпаюцца ў сметніках, вышукваючы тое-сёе? І за гэта народ павінен дзякаваць уладам? Не дачакаецеся..."

Лукашэнкаўска-замяталінска-мясніковіцкую палітыку ў нейкай меры яшчэ можна было б зразумець, калі б шматмільярдныя (а можа, нават трыльённыя) датацыі на падтрымку дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі браліся не з кішэні падаткаплацельшчыкаў, а з іх асабістай. А то што ж атрымліваецца — зводзяцца да абразлівага мінімуму пенсіі, стыпендыі, выдаткаванні шматдзетным маці, чарнобыльцам, фактычна ўразаецца і без таго мізэрны заробак рабочых, служачых, калгаснікаў — і ўсе гэтыя грошы кідаюцца на падтрымку ненажэрнай прапагандысцкай машыны. За твае кроўныя цябе ж, прабачце, і абалваньваюць, альбо, кажучы мовай навукоўцаў, замбіруюць. Адзін палітык неяк сказаў: "Чаму людзі церпяць такія здзекі? Таму, што яны не ведаюць і тысячнай долі праўды. Данясі да шырокага грамадства аб'ектыўную інфармацыю — і заўтра тысячы, мільёны людзей паўстануць на абарону сваіх правоў...".

Так, многае, вельмі многае залежыць ад сродкаў масавай інфармацыі. Эксперымент, які ставяць беларускія ўлады, здаецца, зводзіцца да аднаго — каб людзі не хадзілі, а поўзалі, не жылі, а існавалі. Вось чаму яны так баяцца свабоднага слова, аб'ектыўнай інфармацыі.

Задача "Народнай волі" — падняць людзей з каленяў, расплюшчыць ім вочы, вярнуць памяць тым, хто згубіў яе, паддаўшыся адурманьваючай прапагандзе як ленінска-сталінска-брэжнеўскіх часоў, так і сённяшніх. Што можна супрацьпаставіць дыскрымінацыі нашай газеты з боку ўлад? Наша з вамі, дарагія чытачы, шчырае сяброўства. Будзем разам пры любых абставінах! Не здрадзім адзін аднаму і ў 2000-м годзе. Калі ў каго няма магчымасці падпісацца на паўгоддзе — зрабіце гэта пакуль на квартал. А калі і на квартал цяжка — падпішыцеся на месяц-другі, затым можна будзе працягнуць падпіску.

У вас дружны пад'езд, сябруеце ўсім домам... Маеце магчымасць на рабоце перадаваць газету адзін аднаму... Тады можна падпісацца, як кажуць, у складчыну — атрымаецца калектыўнае чытанне "Народнай волі".

Я асабіста звяртаюся да тых, хто жыве больш заможна. Працягніце руку дапамогі свайму збяднеламу суседу, сваяку, знаёмаму па працы... Паўгадавая альбо квартальная падпіска на "Народную волю" — чым не падарунак! І яго можна зрабіць як індывідуальна, так і калектыўна. Шырокае поле дзейнасці тут у прафсаюзных арганізацый, партый, рухаў...

Я іншы раз задумваўся: што дае нам, журналістам адзінай у краіне штодзённай недзяржаўнай газеты, сілы трымацца, не здраджваць мэтам адраджэння Беларусі, пабудовы дзяржавы са свабодным, адкрытым грамадствам? Шчырае сяброўства з вамі, паважаныя нашы чытачы! Ведаем: у гэты цяжкі час "Народная воля" вам патрэбна як глыток крынічнай вады, як той жа глыток свежага паветра. Аб гэтым пішаце Вы самі. Дзякуй вам! Дык будзем жа разам і ў 2000-м годзе!

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік і галоўны рэдактар "Народнай волі".**

## Адбылося першае пасяджэнне Сойму БНФ "Адраджэньне", абранага на VI з'ездзе арганізацыі

Прайшло першае пасяджэнне Сойму БНФ. Кіраўнічы орган быў сфармаваны на 2-й сесіі VI з'езда Беларускага народнага фронту, на якім было абрана новае кіраўніцтва арганізацыі.

У рабоце Сойму ўдзельнічалі такія вядомыя ў Беларусі людзі, як Рыгор Барадулін, Анатоль Грыцкевіч, Уладзімір Арлоў, Артур Вольскі.

Сябры Сойму абралі Ўправу і Сакратарыят, у якія ўвайшлі Алесь Кавалец (адказны сакратар), Сяргей Міхноў, Юрась Пальчэўскі і Аляксей Янукевіч; былі сфармаваны камісіі Сойму і зацверджаны старшыні гэтых камісій. Адзін з асноўных накірункаў працы кіраўнічых структур БНФ на бліжэйшы час — гэта ўзнаўленне дзейнасці Мінскай гарадской арганізацыі, а таксама падрыхтоўка ў рэгіёнах людзей, якія будуць гатовыя працаваць у агульнанацыянальным органе. "Фронт павінен перастаць быць чыста мінскай арганізацыяй паводле структуры кіраўнічых органаў. Управа БНФ мусіць быць органам агульнанацыянальным — як гэта ёсць у нашых суседзяў: і ў былым Саюдзісе, і ў Руху", — сказаў старшыня БНФ Вінцук Вячорка.

У парадку дня былі разгледжаны дзеянні Беларускага народнага фронту дзеля абароны незалежнасці Беларусі. Вінцук Вячорка ў сваім дакладзе асвятліў міжнародны кантэкст палітычнай сітуацыі ў краіне. З дакладамі "Сённяшняе аблічча расійскага імперыялізму" і "Супольныя акцыі незалежніцкіх сіл" выступілі намеснікі старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык і Віктар Івашкевіч.

**Прэс-служба БНФ.**

## Список торговых точек "Белсоюзпечати",

**принимающих подписку на "Народную волю" в г.Минске со скидкой при льготной и обычной подписке — на 30 процентов, при ведомственной — на 20 процентов.**

**Октябрьский район**

| | |
|---|---|
| Октябрьский пункт подписки | ул.Жуковского, 5/1 |
| Магазин №1 | ул.Жуковского, 5 |
| Магазин №12 | ул.Кижеватова, 80 |
| Киоск №228 | Университет |
| культуры, | ул.Рабкоровская, 17 |
| Киоск №245 | Больница скорой помощи, ул.Кижеватова, 56 |

**Партизанский район**

| | |
|---|---|
| Партизанский пункт подписки | ул.О.Кошевого, 8 |
| Магазин №6 | ул.Филимонова, 1 |
| Магазин №18 | ст.метро "Площадь Победы" |
| Киоск №2 | Лингвистический университет, ул.Захарова, 21 |

**Первомайский район**

| | |
|---|---|
| Первомайский пункт подписки | пр.Ф.Скорины, 113 |
| Магазин №3 | пр.Ф.Скорины, 76 |
| Магазин №13 | ул.Калиновского, 82/2 |
| Магазин №23 | ул.Славинского, 39 |

**Московский район**

| | |
|---|---|
| Фрунзенский пункт подписки | ул.Романовская Слобода, 9 |
| Магазин №20 | ул.Есенина, 16 |
| Киоск №34 | г-ца "Минск", пр.Ф.Скорины, 11 |
| Киоск №37 | Дом правительства, ул.Советская, 11 |
| Киоск №38 | Педагогический университет, ул.Советская, 18 |
| Киоск №40 | Мингорисполком, пр.Ф.Скорины, 8 |
| Киоск №95 | Комитет архитектуры и гражданского строительства, ул.Мясникова, 39 |
| Киоск №243 | Совмин, ул.Советская, 9 |
| Киоск №302 | 9-я больница |

**Фрунзенский район**

| | |
|---|---|
| Центральный пункт подписки | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №11 | пр.Пушкина, 77 |
| Магазин №15 | ул.Танковая, 16 |
| Магазин №19 | пр.Машерова, 51/1 |
| Магазин №21 | ст.метро "Пушкинская" |
| Киоск №232 | МЗХ, пр.Машерова |
| Киоск №262 | г-ца "Планета", пр.Машерова, 31 |
| Киоск №298 | пр.Машерова, 75/1 |

**Ленинский район**

| | |
|---|---|
| Участок подписки "Белсоюзпечати" | ул.Володарского, 16, к.302 |
| Магазин №4 | ул.Ленина, 15 |
| Магазин №9 | пр.Рокоссовского, 140 |
| Магазин №14 | ул.Володарского, 22 |
| Магазин №25 | ул.К.Маркса, 21 |
| Киоск №16 | г-ца "Свислочь", ул.Кирова, 13 |
| Киоск №18 | Технологический университет, ул.Свердлова, 13/4 |

**Советский район**

| | |
|---|---|
| Магазин №2 | пр.Ф.Скорины, 44 |
| Магазин №7 | ул.Я.Коласа, 69 |
| Магазин №8 | ул.Сурганова, 40 |
| Магазин №16 | ул.В.Хоружей, 24 |
| Магазин №17 | ул.Некрасова, 35 |
| Киоск №136 | ст.метро "пл.Я.Коласа", выход к ин-ту Физкультуры |

**Центральный район**

| | |
|---|---|
| Магазин №10 | ул.Осипенко, 2 |
| Киоск №78 | г-ца "Юбилейная", пр.Машерова, 19 |
| Киоск №88 | Миноблисполком, ул.Энгельса, 4 |
| Киоск №187 | г-ца "Беларусь", ул.Сторожевская, 15 |

**Заводской район**

| | |
|---|---|
| Магазин №24 | ул.Жилуновича, 31 |
| Киоск №198 | Экономический университет |
| Киоск №209 | проходная МАЗа, ул.Социалистическая, 2 |

**Тэлеграма**

*Прэзідэнту Украіны сп.Леаніду КУЧМУ*

Паважаны Леанід Данілавіч!

Ад шчырага сэрца віншую Вас з перамогай. Прагаласаваўшы за Вас, украінскі народ абраў дэмакратыю, стабільнасць і шлях у цывілізаваную Еўропу, а не тое цемрашальства, у якое яго хацелі зацягнуць некаторыя Вашы апаненты.

Дэмакратычная Беларусь успрыняла Вашу перамогу як прадвесце змен у лепшы бок палітычнага становішча і ў нашай краіне.

Жадаю Вам, Леанід Данілавіч, моцнага здароўя, чалавечага шчасця і новых поспехаў.

**Сямён ШАРЭЦКІ,**
**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**



*Леанід Кучма сярод моладзі.*

## Аднавіла сваю працу Каардынацыйная рада дэмакратычных сіл

Пасля пэўнага перапынку аднавіла сваю працу Каардынацыйная рада дэмакратычных сіл, якая была ўтворана 30 студзеня 1999 года рашэннем II Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі. У яе ўвайшлі найбольш уплывовыя дэмакратычныя арганізацыі — Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларускі народны фронт, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Беларускі Кангрэс дэмакратычных прафсаюзаў, Асацыяцыя дэмакратычных няўрадавых арганізацый і "Хартыя-97". Аднавіў (пасля нядаўніх змен у кіраўніцтве) свой удзел у працы КРДС Беларускі народны фронт. Такім чынам, Каардынацыйная рада дэмакратычных сіл цяпер працуе ў поўным складзе.

На пасяджэнні, якое адбылося днямі, быў прыняты зварот да кіраўнікоў дзяржаў — удзельнікаў Сустрэчы на вышэйшым узроўні АБСЕ ў Стамбуле 18—19 лістапада, у якім выкладзена просьба разгледзець пытанне аб пагрозе бяспецы на Еўрапейскім кантыненце, якую нясе магчымая ліквідацыя незалежнасці Беларусі ў выніку дзеянняў рэжыму А.Лукашэнкі і ўладаў Расійскай Федэрацыі. Таксама разглядаліся пытанні падрыхтоўкі сустрэчы ў Стамбуле, якую адначасова праводзіць Спецыяльная рабочая група Парламенцкай Асамблеі АБСЕ пад кіраўніцтвам Адрыяна Северына, і доступу апазіцыі да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Абмяркоўваўся парадак правядзення 24 лістапада (у трэцюю гадавіну рэферэндуму 1996 г.) і напярэдадні падпісання "саюзнага дагавору" ланцуга пікетаў ад пл.Я.Коласа да вул.Сурганава агульнай колькасцю ў 2000 чалавек, як прадугледжана пададзенай у Мінгарвыканкам заяўкай.

**Прэс-служба Беларускай сацыял-дэмакрычнай партыі (Народная грамада).**

## Вы — з "Народнай волей", "Народная воля" — з Вамі!

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **Народная Воля** (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА** на газету **Народная Воля** (індэкс выдання)

ПВ | месца | літар

Кошт: падпіскі ___ руб., пераадрасоўкі ___ руб. Колькасць камплектаў

на 2000 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**Незалежная экспертыза**

*Уладзімір КУЛАЖАНКА, доктар эканамічных навук, прафесар*

# Ад гульні Пракаповіча ў нолікі жыць лягчэй не стане

Праз некалькі тыдняў адбудзецца дэнамінацыя пустога беларускага рубля. Пра гэта напісана і сказана ўжо так многа, што, здаецца, і дадаць няма чаго. Толькі старшыня Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч шмат разоў тлумачыў сэнс гэтай фінансавай падзеі, яе быццам бы карыснасць для народнай гаспадаркі і ўсяго народа. Але прагучала гэта непераканаўча. Чаму? Паспрабую патлумачыць шаноўным чытачам "Народнай волі".

Па-першае, таму, што грашовая рэформа (дэнамінацыя ёсць адна з яе форм) раптоўна выклікана вонкавымі абставінамі. Спачатку быў намер дамагчыся ад Расіі, каб яе рублі абарачаліся і ў Беларусі. Але крамлёўскія ўлады і банкіры зразумелі, што беларускі бок такім чынам хоча за кошт расійскіх рэсурсаў пакрыць страты ад знямоглага беларускага рубля і аслабіць крызіснасць далёкай ад рыначнага накірунку эканомікі ў цэлым. Ні заўтра, ні ў бліжэйшай перспектыве расійскі рубель не будзе ўведзены ў абарачэнне ў Беларусі. І дзякуй Богу, бо ўвядзенне адзінай валюты, пры гэтым не наднацыянальнай, а валюты больш моцнай дзяржавы, прывяло б адразу да страты нашай краіны спачатку эканамічнай незалежнасці, а затым і палітычнай. У гэтых умовах для Беларусі выйсце адно — пачаць хоць бы ўяўнае ці нават прывіднае ўмацаванне беларускага рубля.

Па-другое, дэнамінацыя — ніякае не ўмацаванне беларускага рубля, а толькі спроба лячэння яго шматлікіх хвароб. Найперш — ад абясцэньвання. Гэта ж недарма сёлета ў абарачэнне з невялікім інтэрвалам выпушчаны спачатку аднамільённая купюра, а затым і пяцімільённая. А логіка эканамічнага жыцця такая, што мільённыя купюры выкліканы мільённымі цэнамі, як і наадварот. Справа дайшла да таго, што намінал дробных купюр наблізіўся толькі да кошту паперы, на якой яны надрукаваныя, напрыклад, аднатысячнай купюры. Ва ўмовах гіперінфляцыі ўзнікла дылема: друкаваць наступныя, больш буйныя грошы, каб скараціць вялікія выдаткі на дарагую паперу ці закрэсліць некалькі нулёў на грошах. Абралі апошняе. Дык прычым тут клопат пра ўмацаванне рубля, калі закрэсліванне трох нулёў — гэта толькі закрэсліванне дутых мільянераў.

Па-трэцяе, дэнамінацыя беларускага рубля эканамічна непадрыхтаваная, бо інфляцыя ў краіне не тое што не пераадолена, але і не аслаблена. Апошняя плюсуе ў сярэднім не менш за дзесяць працэнтаў у месяц. За год, па прагнозах аналітыкаў, складзе 300 працэнтаў. Дык якой карысці можна чакаць ад дэнамінацыі з новага 2000 года, калі да меншай колькасці нулёў у цэнах хутка давядзецца дабаўляць новыя нулі?! І гэта пацвярджае вопыт 1994 года. Памятаеце, тады таксама была праведзена дэнамінацыя. Дарэчы, пры аналагічных фінансава-эканамічных умовах. І што атрымалася? Цэны з 1994 года павысіліся ў тысячы разоў. Дзень пры дні растуць яны і зараз. Возьмем для параўнання адзін тыдзень — з 26 кастрычніка па 3 лістапада. На Камароўскім рынку ў Мінску за гэтыя сем дзён макаронныя вырабы падаражалі на 4—5,4 працэнта, марская рыба — на 5—6 працэнтаў, на столькі ж — морква. А яблыкі, якія з'яўляюцца асеннім прадуктам аж на 33 працэнты, на 9 працэнтаў — апельсіны. Падаражалі сасіскі, вэнджаная каўбаса, куры. А цэны на беларускую гарэлку ўзляцелі на 25 працэнтаў. Але што гарэлка? Гэта прадукт, які купілі, выпілі і на гэтым — кропка. А вось тое, што з 1 лістапада ў чарговы раз на 15 працэнтаў павышаны цэны на нафтапрадукты, будзе мець ланцуговыя наступствы ў сэнсе росту цэн. Калі такая хуткасць росту цэн захаваецца, то што застанецца ад дэнамінацыі да канца 2000 года? Інфляцыя як была, так і застанецца, а дэвальвацыю рубля па-ранейшаму будзе аплачваць са сваёй амаль пустой кішэні просты чалавек. Да таго ж, з гэтай жа кішэні будуць пакрывацца новыя выдаткі на друкаванне грошай. Дарэчы, новыя грошы с беларускай сімволікай, напрыклад, з партрэтам паэтэсы Алаізы Пашкевіч (Цёткі) ужо даўно надрукаваныя. Сённяшнія калабаранты не даюць ім ходу, каб не абуджаць у народа патрыятычныя пачуцці. Існуе такое выслоўе: "Грошы не пахнуць". Беларускія, аказваецца, пахнуць.

Праўда, рост цэн на асобныя тавары быццам бы часова спыніўся. Не таму, што наступіла нейкая стабілізацыя, а таму, што яны перасягнулі ўсялякія аб'ектыўныя межы. Надзейна знізіліся цэны ў Мінску толькі на сабак. Мінскі гарадскі савет сваім рашэннем увёў падатак на іх утрыманне. Прычым памер падатку залежыць ад росту сабакі. Попыт на шчанят, зразумела, знізіўся, адсюль і цэны пакаціліся ўніз.

Банкаўскае начальства хвалілася, што новыя купюры па сваім дызайне падобныя на цяперашнія. Маўляў, лягчэй людзям будзе прывыкаць да новых асігнацый. Але гэты клопат утапічны. Людзі лёгка прывыкнуць да новых грошай, калі яны будуць надзейнымі, мець высокую пакупніцкую здольнасць. Але якраз такую якасць новых грошай ніхто не гарантуе. І гэта не выпадкова. Справа ў тым, што эканоміка краіны — у крызісным стане. Спасылка пры гэтым на досвед іншых краін па правядзенні дэнамінацыі беспадстаўная. Напрыклад, у Расіі, Украіне і Польшчы пайшлі на гэты крок толькі тады, калі перамаглі інфляцыю і стабілізавалі валютны курс нацыянальных грошай. І то ў Расіі, пэўна, паспяшаліся, бо сёння валютны курс расійскіх банкнотаў імкліва набліжаецца да 30 рублёў за адзін долар.

Сённяшняя сітуацыя ў эканоміцы Беларусі зусім непрыдатная для дэнамінацыі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова прывесці некалькі прыкладаў. Возьмем хоць бы такія.

1. Нацыянальны банк не мае валютных рэзерваў, каб лібералізаваць валютны курс рубля, зрабіць яго адзіным. Ёсць толькі намер стварыць запас валюты памерам 450 мільёнаў долараў. Шляхам усемагчымых збораў па прынцыпе "са свету па нітцы — голаму сарочка". У тым ліку будуць спробы пазычыць валюту ў насельніцтва, але ці павераць людзі ўраду, які неадночы іх ашукаў?

2. У глыбокім правале сельская гаспадарка, нягледзячы на шасцідзесяцітрыльённыя крэдыты і субсідыі. На зіму нарыхтавана кармоў на 29 працэнтаў меней, чым летась. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года павялічыліся пазыкі калгасаў і саўгасаў. Яны складаюць сёння 10 трыльёнаў рублёў. На чвэрць засталося неўзараным зябліва. Чакаць у гэтых умовах росту вытворчасці і напаўнення рынку харчовымі таварамі — безнадзейная справа.

3. Па даных статыстыкі, за першыя тры кварталы прамысловасць павялічыла вытворчасць на 7,5 працэнта. Але гэта чыстая хлусня, бо болей як на 100 трыльёнаў рублёў тавары пайшлі не на рынак, а на склад. Такі рост вытворчасці горш за скарачэнне. Але і гэта не ўся праўда пра "поспехі". У значнай меры многае тлумачыцца ростам крэдыторскай запазычанасці, якая на пачатку кастрычніка дасягнула астранамічнай велічыні — 1.180 трыльёнаў рублёў, перавысіўшы дэбіторскую на 385 трыльёнаў, або на 48,5 працэнта. Прыведзеныя лічбы гавораць пра многае, і найперш пра тое, што прадпрыемствам цяжка будзе разлічвацца з даўгамі, а ўладам умацоўваць рубель. Тым болей, што колькасць стратных прадпрыемтсваў за дзевяць месяцаў павялічылася з 16 да 18,2 працэнта. Як тут можна рухацца наперад? Атрымліваецца, як у той прыказцы: "Рада бы душа ў рай, ды грахі не пускаюць".

4. Разлічваць на ўмацаванне беларускага рубля за кошт развіцця знешняга гандлю таксама не даводзіцца. Па словах міністра замежных спраў Урала Латыпава, беларускі экспарт скараціўся аж на 20 працэнтаў.

Адным словам, з якога боку ні ацэньвай умовы дэнамінацыі, не атрымліваецца, каб яна стала першым важным крокам на шляху выхаду з крызісу. Ад гульні Пятра Пракаповіча ў нолікі жыць нашым людзям лягчэй не стане.

